Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

48 (556) 2 снежня 2010 года.

Кошт свабодны.





У Казюках. *Фота Ул. Скрабатуна*

# Óðàä ïàäðûõòàâà¢ ïðàïàíîâó àá çí³æýíí³ ïðàöýíòíàé ñòà¢ê³ êðýäûòó íà æûëë¸ äëÿ àñîáíûõ êàòýãîðûé ãðàìàäçÿí

■ Сяргей Каралевіч, *БелаПАН*

**Урад падрыхтаваў прапанову аб зніжэнні працэнтнай стаўкі крэдыту на жыллё для асобных катэгорый грамадзян**

Аб гэтым паведаміў намеснік прэм'ер-міністра Віктар Бура, выступаючы 26 лістапада на сумесным пасяджэнні дзвюх палат Нацыянальнага сходу.

У прыватнасці, працэнтная стаўка па льготным крэдыце на жыллё можа быць зніжаная 5 да 1% для жыхароў населеных пунктаў з колькасцю насельніцтва да 50 тысяч чалавек, а такса ма для жыхароў Кобрына (Брэсцкая вобласць), Слуцка (Мінская вобласць), Рэчыцы і Святлагорска (Гомельская вобласць).

Акрамя таго, для такіх грамадзян плануецца павялічыць з 20 да 40 гадоў тэрмін пагашэння льготных крэдытаў.

# ÀÀÍ âûäçÿëÿå Áåëàðóñ³ áîëüø çà ì³ëü¸í äîëàðà¢ íà áàðàöüáó ç íàñ³ëëåì ¢ ñÿì'³



**Беларусь атрымае грант ААН у памеры 1,025 млн. долараў ЗША на праект па стварэнні ў краіне механізмаў па прадухіленні дамашняга насілля. Пра гэта паведаміла каардынатар праграм ЮНФПА ў Беларусі, кіраўнік тэматычнай групы ААН у Беларусі па пытаннях гендару Таццяна Гаплічнік 25 лістапада на прэс-канферэнцыі, прысвечанай пачатку інфармацыйнай кампаніі па прадухіленні насілля ў сям'і.**

■ Алена Спасюк, *БелаПАН*

Паводле яе слоў, нацыянальнымі партнёрамі праекта стануць МУС і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. У рэалізацыі праекта прымуць удзел ЮНФПА, Міжнародная арганізацыя па міграцыі, ЮНІСЕФ.

Цяпер абмяркоўваюцца арганізацыйныя пытанні рэалізацыі праекта на нацыянальным узроўні і рыхтуецца яго рэгістрацыя. Гаплічнік адзначыла, што выдзеленыя ААН сродкі пойдуць на навучанне спецыялістаў, інфармацыйныя кампаніі па прафілактыцы насілля. Важным аспектам дзейнасці стане таксама падтрымка распрацоўкі закона аб прадухіленні насілля ў сям'і.

Прадстаўнік ААН паведаміла, што ва ўсім свеце з 25 лістапада да 10 снежня праходзіць інфармацыйная кампанія па барацьбе з насіллем у дачыненні жанчын. Яна падкрэсліла, што гэта праблема важная і для Беларусі. У краіне ў рамках кампаніі пройдзе шэраг мерапрыемстваў, у прыватнасці, спектаклі на тэму дамашняга насілля па сістэме форум-тэатра "Асабістая прастора". Адбудзецца серыя канцэртаў "Больш ні гуку" ў Мінску і ў рэгіянальных цэнтрах. Акрамя таго, у розных гарадах адбудуцца круглыя сталы і семінары-трэнінгі па гэтай тэме.

Адвакат Іна Легчына паведаміла, што 80% забойстваў і выпадкаў прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў у Беларусі адбываюцца ў сферы сямейна-бытавых адносін. За 9 месяцаў 2010 года ўчынена 2.422 злачынствы , з іх забойстваў з замахамі 104 (133), прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў у быце 248 (291 за 2009 год). Аналіз МУС паказвае, што ў 48% выпадкаў правапарушальнікамі з'яўляюцца мужчыны ва ўзросце 30- 45 гадоў, а пацярпелымі–жанчыны, старэйшыя за 45 гадоў. Паводле статыстыкі, 53% злачынстваў учыняецца ў дачыненні да мужоў ці сужыцеляў, 47% у дачыненні да іншых членаў сям'і. Усё часцей ахвярамі сваякоў становяцца пенсіянеры. Больш за 70% злачынстваў адбываецца пасля сумеснага распіцця спіртных напояў.

**Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í**

# Çà ðà¢íàäóøøà ¢ àäñòà¢êó

■ Станіслаў Раманчук.

**Значны грамадскі рэзананс набыла адна з нядаўніх нарад ў прэзідэнцкай Адміністрацыі, дзе прагучалі і негатыўныя факты бяздушных адносін чыноўнікаў да Віцебшчыне да людзей.**

На ёй стала вядома аб тым, што засталіся нязжатымі шэраг прысядзібных участкаў са збожжам у Браслаўскім раёне. Кіраўнік вобласці А. Косінец тады паабяцаў у гэтым разабрацца, але Прэзідэнт Беларусі рэзка яго абарваў на паўслове і даручыў дзяржкантролю пакараць вінаватых. У выніку ў азёрны край выехала праверка і праз два дні былў зняты з пасады першы намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Сапель. Паступовыя прапановы аб вызваленні ад займаемых пасад вінаватых калгасных упраўленцаў члены сельгаскааператыва "Новая Гвардыя" адхілілі на агульным сходзе. Старшыня гэтай гаспадаркі і начальнік вытворчага ўчастка Казьяны пакуль былі пакараны вымовамі.

Але гэта гісторыя можа мець працяг, калі на вышэйшых ступенях кіруючай "вертыкалі" гэта палічаць недастатковым пакараннем. Дарэчы, кафлікт пастараліся ўладзіць: завезлі зерне пакрыўджаным і выплацілі кампенсацыі за страчаны ўраджай зерня. Аднак навошта было гэты інцыдэнт выводзіць на рэспубліканскі ўзровень, няўжо ў сельсавета і ў раённага начальства мала паўнамоцтваў рэагаваць на сітуацыю?

**Ïîëàöê³ ðà¸í**

# Ñóñòðýíåìñÿ ëÿ áðîíçàâàãà ñòóäýíòà

■ Кастусь Александровіч

**Для большасці з нас самыя цудоўныя моманты жыцця звязаны са школай, але не менш прыемныя ўспаміны пакідае студэнцкая пара.**

Для тых, хто цяпер вучыцца ўжо на 10 факультэтах Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, надоўга запомніцца тыдзень напярэдадні Міжнароднага дня студэнтаў. У гэтай ВНУ прайшло з гэтай нагоды шэраг мерапрыемстваў, а кульмінацыяй урачыстасцей стала цырымонія адкрыцця адлітай з бронзы скульптуры "Полацкі студэнт". Дарэчы, у той самы дзень адкрылі падобны манумент і ў сталічным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі ў выглядзе сучаснага студэнта з наўтбукам і рукзаком на плячах. У "культурнай сталіцы" краіны вярнуліся да сваіх каранёў, а аўтар манумента, скульптар Аляксандр Прохараў вырабіў сімвал студэнта ў вобразе продка ў сярэднявечным адзенні з акадэмічнай шапачкай і кнігамі ў руках. Менавіта яшчэ ў канцы XVI стагоддзя ў Полацку ўжо дзейнічаў іезуіцкі калегіум, досыць перадавая навучальная ўстанова для таго часу. Новы помнік студэнту стаіць у двары вучэбнага корпуса двух факультэтаў – гістарычнага і інфармацыйных тэхналогій, цяпер маладым закаханым і сябрам стала зручней прызначаць месца спатканняў. Падобныя помнікі студэнтам маюць, між іншым, многія знакамітыя ўніверсітэты свету.

**Ãëûáîöê³ ðà¸í**

# Íå ãîðø, ÷ûì ó Äóäóòêàõ

■ Чэслаў Якубовіч

**Падчас сваёй апошняй службовай камандзіроўкі на Глыбоччыну старшыня Віцебскага аблвыканкама А. М. Косінец не толькі даў дару чэнні па падрыхтоўцы тут Дня беларускага пісьменства, але і правёў рабочую нараду па будаўніцтве турысцка-аздараўленчага комплексу "Пліса".**

У прыгожай мясцовасці, калі ўдасца выканаць усё задуманае, праз 4 гады можа з'явіцца ўнікальны для Беларусі буйны турцэнтр для размяшчэння да 600 адпачываючых на ўлонні прыроды на плошчы больш за 20 гектараў побач з аўтатрасай Глыбокае-Полацк. Яго збіраецца пабудаваць сталічная буйная фірма "ТрэстПрамБуд". Акрамя звыклых кемпінга, катэджаў сярод лесу і пансіяната санаторнага тыпу тут запланавана па генплану ўзвядзенне сядзібы натуральнай гаспадаркі "Фальварак" у гістарычна-этнаграфічнай частцы комплекса. Акрамя гасцявых домікаў з'явяцца ратушная плошча, невялікая царква і касцёл для вернікаў, гандлёвыя рады, лаўкі народных майстроў і традыцыйная беларуская карчма. Гэтыя аб'екты будуць уяўляць найбольшую цікавасць для турыстаў, для іх таксама пабудуюць забаўляльны цэнтр, амфітэатр, лазні і адкрытыя басейны з падагрэвам. Ёсць планы аднавіць нават ладдзю на вёслах, як плавалі нашы далёкія продкі. Агульная сума інвестыцый на комплекс складзе амаль 50 млрд. рублёў.

**Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì** www.rp5.ru

| | чацвер 02.12.10 | | | | пятн. 03.12.10 | | | | сб. 04.12.10 | | | | нядз. 05.12.10 | | | | 06.12. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -15 | -15 | -13 | -13 | -12 | -9 | -4 | -5 | -5 | -3 | 0 | -5 | -4 | -6 | -6 | -6 | -7 |
| Ціск, мм | 754 | 754 | 754 | 752 | 750 | 748 | 748 | 747 | 744 | 738 | 736 | 735 | 735 | 737 | 741 | 742 | 744 |
| Вільготнасць, % | 91 | 90 | 78 | 80 | 89 | 85 | 88 | 96 | 92 | 93 | 94 | 92 | 93 | 89 | 87 | 91 | 92 |
| Вецер м/сек | Ю-В 2 | В 3 | В 6 | Ю-В 6 | Ю-В 6 | Ю-В 5 | Ю 6 | Ю 6 | Ю-В 6 | Ю-В 5 | Ю 6 | Ю-З 6 | З 6 | С-З 8 | С-З 5 | З 5 | З 4 |
| | | 08:12 | 15:45 | | | 08:14 | 15:44 | | | 08:15 | 15:43 | | | 08:17 | 15:43 | | 08:18 |
| | | 04:02 | 13:29 | | | 05:29 | 13:53 | | | 06:54 | 14:24 | | | 08:10 | 15:08 | | 09:13 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**У Беларусі, па ацэнках сацыёлагаў, значна павысіўся інтарэс да прадстаячых прэзідэнцкіх выбараў. На фоне пагаршэння адносін з Расіяй з'явілася пэўная інтрыга, людзі спадзяюцца, што падчас агітацыйнай кампаніі прэтэндэнты не будуць замоўчваць хвалюючыя грамадства пытанні, бо атрымалі свабодны доступ да СМІ. Па меркаванні ж большасці экспертаў, рост грашовай масы і знешнегандлёвага дэфіцыту стварыў падставу для, магчыма, новай дэвальвацыі беларускага рубля і істотнай інфляцыі ў пачатку 2011 года.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Літва.** Прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ заявіла, што літоўцы хацелі б дапамагчы беларускаму народу быць больш адкрытымі, хутчэй развівацца, бачыць свет вакол і адкрыцца яму.

**Германія.** Напярэдадні саміта НАТА краіна затрабавала поўнага вываду са сваёй тэрыторыі амерыканскай ядзернай зброі, каля 20 такіх бомб з авіябазы ВПС ЗША.

**Расія.** Прэзідэнт Д. Мядзведзеў у чарговым пасланні Федэральнаму сходу пацвердзіў стратэгічны курс РФ на збліжэнне з ЕС і ЗША і на мадэрнізацыю палітычнай сістэмы.

**Ірландыя.** Услед за Грэцыяй краіна апынулася на мяжы дэфолту і пачала перамовы з ЕС і МВФ аб атрыманні фінансавай дапамогі, што прынесла новыя праблемы для зоны еўра.

**ЗША.** Амерыканская адміністрацыя адвергла крытыку Расіі з нагоды экстрадыцыі з Тайланда расійскага грамадзяніна, гандляра зброяй Віктара Бута, ён пад арыштам з 2008 г.

**Партугалія.** Каб вырашыць свае праблемы ў эканоміцы і з даўгамі, краіна размясціла еўраблігацыі на суму 700 млн. еўра тэрмінам на 10 гадоў з даходнасцю 6,8 % гадавых.

**Украіна.** Прэзідэнт В. Януковіч пасля мясцовых выбараў адправіў у адстаўку эпатажнага мэра Кіева Л. Чарнавецкага, апазіцыя выйграла выбары мэраў Запарожжа і Харкава.

**Польшча.** Услед за іншымі дзяржавамі ЕС у краіне ўвялі істотныя абмежаванні і нават забарону курэння ў грамадскіх месцах, барах, кафэ, парушальнікаў чакае штраф 125 EUR.

**Грузія.** Па новым законе зняволеным турмаў краіны дазволілі мець у месяц да 8 платных відэаспатканняў з роднымі па 15 хвілін кожнае з дапамогай вэб-камер праз Інтэрнэт.

**Казахстан.** Улады краіны адкрылі для ЗША новыя паветраныя маршруты, па якіх яе ваенныя самалёты змогуць дастаўляць у Афганістан салдат і розныя грузы для арміі.

**Бельгія.** Ахвярамі моцнай паводкі з-за цыклону "Кармэн" сталі некалькі чалавек, вадой заліло гарады і дарогі Францыі, Галандыі, Англіі, Швейцарыі, Германіі, Польшчы.

**Бразілія.** У краіне адкрылі буйное радовішча нафты Лібра аб'ёмам каля 8 млрд. барэляў, даходы ад яе здабычы накіруюць на развіццё адукацыі, нанатэхналогій, дапамогу бедным.

**Карэя.** Сын адмірала, 26-гадовы Юн Гу, пацвердзіў, што пакуль не збіраецца жаніцца з малодшай дачкой расійскага прэм'ера У. Пуціна Каці, але яны сябруюць ужо 10 гадоў.

**Германія.** Аўтамабілі нямецкага аўтагіганта Audi атрымалі прэмію "Залаты руль-2010" як лепшыя навінкі года ў свеце ў класе легкавушак малога класу і катэгорыі "люкс".

**Англія.** Букінгемскі палац аб'явіў пра жаніцьбу старэйшага 28-гадовага ўнука каралевы, прынца Уільяма, са сваёй рэвесніцай Кэтрын Мідлтан, з якой сябруе некалькі гадоў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У Еўропы, як заявіў еўракамісар па пытаннях пашырэння ЕС Штэфан Фюле, ёсць пытанні да працэдуры датэрміновага галасавання і што ў складзе камісій мізер апазіцыі.

**Гродна.** Выключным правам на экспарт айчынных угнаенняў вытворчасці ААТ "Гродна Азот" надзялілі толькі пасрэдніка- спецэкспарцёра, ЗАТ "Беларуская калійная кампанія".

**Мінск.** Да канца гэтага года, як заявіў міністр сувязі і інфарматызацыі Мікалай Панцялей, у Беларусі будуць выкананы ўсе заяўкі грамадзян на ўстаноўку кватэрных тэлефонаў.

**Брэст.** Пасля ўстаноўкі на трасе М1 больш за 20 камер відэаназірання ўжо некалькі соцень вадзіцеляў атрымалі па поште здымкі і пастановы аб штрафах за перавышэнне хуткасці.

**Мінск.** За год існавання беларускага выпуска тэлепраграмы "Жди меня" сіламі сталічнай рэдакцыі адшукалі больш за 150 чалавек, штодзень за такой дапамогай звяртаюцца каля 30.

**Гродна.** З арышту на падпіску аб нявыездзе змяніла пракуратура меру затрымання экс-начальніку абласной міліцыі, генерал-маёру Г. Хацько, ён незаконна ўзводзіў сабе дом.

**Мінск.** Ужо ў пачатку 2011 года, як заявіў прафесар-эканаміст Барыс Жэліба, Беларусі для падтрымання сваёй эканомікі і курсу рубля трэба будзе недзе знайсці не менш за 3 млрд. $.

**Магілёў.** У абласной бальніцы паспяхова праляччыўся турыст-магілёўчанін, які на курорце ў Тайландзе падхапіў ліхаманку Дэнге пасля ўкусу камара, гэта першы выпадак за 8 гадоў.

**Мінск**. Напярэдадні зімовых святаў сталіцу Беларусі ўпершыню наведаў у рамках турнэ па Еўропе самы вядомы ў свеце Санта-Клаус з Фінляндыі, па мянушцы Йоўлупуккі.

**Кіраўск.** На вадаёме каля вёскі Любонічы затрымалі адразу траіх міліцыянераў Клічаўскага РАУС, якія скралі 50 кг сажалкавай рыбы, на іх склалі пратаколы за крадзеж.

**Мінск.** Кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Крыс Джарвіс хоць і прызнаў РБ плацежаздольнай краінай, але заклікаў урад скарачаць расходы на фінансаванне розных дзяржпраграм.

**Шчучын.** Да 15 гадоў турмы суд прыгаварыў 21-гадовую жыхарку вёскі Астрына, якая летам збіла і кінула ў кустах памірацьсвайго 1,5 гадовага сына, калі той расплакаўся.

**Мінск.** На прэм'еры новага беларускага дакументальнага фільма "Катынь. Праз 70 год" гісторык Ігар Кузняцоў нагадаў, што пад Смаленскам забілі і 1148 ураджэнцаў Беларусі.

**Баранавічы.** Дэбютны фільм у гульнявым кіно "Шчасце маё" ураджэнца горада, рэжысёра Сяргея Лазніцы ўжо прынёс яму сёлета 2 Гран-пры і адбор на кінафестываль у Канах.

**Мінск.** Зборнай Беларусі, як паведаміў міністр спорту і турызму А. Качан, на Алімпіядзе-2012 у Лондане запланавана заваяваць 25 медалёў, з іх 5 – залатых; прэмія – па150 тыс. $.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** На чвэрць сёлета на Віцебшчыне стала больш, чым летась, няшчасных выпадкаў на вытворчасці, за 10 месяцаў на працы загінула 20 і сталі калекамі 76 работнікаў.

**Браслаў.** На працягу двух дзён у раёне працавала дэлегацыя з 40 супрацоўнікаў мэрыі і дэпутатаў краявой думы Даўгаўпілса (Латвія), у будучым годзе там прымуць браслаўчан.

**Віцебск.** Насуперак планам росту закупкі малака з панадворкаў насельніцтва вобласці скараціліся яшчэ на 18,9 %, на малзаводы краіны яго паступіла менш на 283 тысячы тон.

**Полацк.** Даходы ААТ "Полацк-Шкловалакно" прэм'ер-міністр РБ С. Сідорскі назваў непанармальнымі з тымі, якія атрымоўваюць сусветныя кампаніі, канкурэнты палачан.

**Глыбокае.** Яшчэ 40 новых катэджаў здалі вяскоўцам у раёне, парк тэхнікі мясцовых гаспадарак узмацніўся 50 сучаснымі трактарамі, 23 збожжаўборачнымі камбайнамі.

**Шуміліна.** Мясцовы вытворчы цэх ААТ "Малако" пачаў пастаўкі сваіх сыроў у гандлёвыя кропкі Магілёва, ягоныя 11 найменняў пастаўляюцца яшчэ ў 200 крам Расіі і Беларусі.

**Гарадок.** Тэрмінова прыйшлося эвакуіраваць жыхароў аднаго з 5-павярховых дамоў райцэнтра з-за пажару электраабсталявання цеплавузла, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Лепель.** Кіраўніка раёна Пятра Шыкшняна ўзнагародзілі медалём "За працоўныя заслугі" за шматгадовую плённую працу і заслугі ў развіцці эканомікі, сацыяльнай сферы рэгіёна.

**Наваполацк.** Прадпрыемствы і фірмы горада сабралі сродкі для завяршэння рамонту 2-й чаргі былога прафілакторыя завода "Палімір", у ім месціцца пансіянат для 90 састарэлых.

**Віцебск.** Суд Чыгуначнага раёна пакараў 3 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці былога работніка гараддзела МНС за атрыманне хабару 8 разоў.

**Дуброўна.** Афармленнем райцэнтра да навагодніх свят зоймецца створанае тут замежнае расійскае рэкламнае агенцтва па вырабу сучасных білбордаў, вывесак, іншай рэкламы.

**Ушачы.** З-за непатушанай сужыцелем цыгарэты згарэў самы прыгожы і дагледжаны дом у вёсцы Селішча, у агні разам з мужчынам загінула і 59-гадовая гаспадыня, пенсіянерка.

**Полацк.** Больш за 1700 адзінак піратэхнікі, розных петард і ракет без дакументаў, якія 6 пацвярджалі якасць выпрабленай прадукцыі, канфіскавалі ў мясцовага прадпрымальніка.

**Гарадок.** Архіепіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый асвяціў у вёсцы Бычыха крыж, званы і купал царквы св. вялікамучаніцы Анастасіі, храм узводзяць за сродкі зямлячкі з Масквы.

**Віцебск.** Першымі наведвальнікамі новага заапарка-запаведніка ля мікрараёна Білёва сталі дзікія кабаны, лані і камерунскія козы, адкрыццё гэтага заацэнтра будзе наступнай вясной.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**80** *тыс. тон* – у такіх аб'ёмах за месяц да прэзідэнцкіх выбараў пачалася ўпершыню пробная пракачка нафты па ўкраінскім трубаправодзе Адэса-Броды, а далей па "Дружбе" на Мазырскі НПЗ. Для дзеючага кіраўніка дзяржавы такая падзея ўдвая прыемная, бо яна сур'ёзна павялічвае яго палітычную вагу і ў перыяд агітацыйнай выбарчай кампаніі. На фоне абвастрэння адносін вышэйшага кіраўніцтва РФ і РБ гэта– пэўны выхад з сітуацыі, бо да таго ж пракачвалася менавіта расійская нафта сорта Urals.

Да гэтага часу праз марскі порт Адэсы па чыгунцы на нафтаперапрацоўчы завод ў Мазыр на пачатак лістапада было прывезена амаль 900 тыс. тон венесуэльскай нафты. Каб разгрузіць адзін танкер, трэба было задзейнічаць 25 даўгіх чыгуначных саставаў. Зразумела, па трубе справы пойдуць хутчэй і танней. Толькі спецыялісты ведаюць, што сяброўства з такім далёкім энергічным партнёрам Беларусі, як Уго Чавес, не ад добрага жыцця.

Да прыкладу, купляць падаражэўшую расійскую нафту ўсё роўна выгадней, бо яна каштуе дзесьці 402 долары/тона. Дадзеныя па венесуэльскай нафце чамусьці засакрэчаныя, толькі па дадзеных Белстата, за тону "чорнага золата" з Венесуэлы беларусы плацяць нават быццам 645 долараў, што ў 1,6 раза даражэй. З фінансамі ў Беларусі цяпер не густа і, верагодна, таварыш Уго прадае нам нафту ў доўг, у пэўную растэрміноўку, як аб гэтым крыху прагаварыліся на сустрэчы ў Мінску гэтыя палітыкі.

Але не будзем шукаць нейкую логіку ў такіх вось схемах "мнагавектарных сувязей". Украіна таксама мела нейкі зуб на Расію, калі ў кастрычніку падпісала такі кантракт з намі на тэрмін да канца 2013 года. Нагадаем, што сёлета беларусы павінны закупіць у Венесуэле да 4 млн. тон нафты, а затым на працягу 3 наступных гадоў – па 10 млн. тон штогод. Пакуль жа з-за густога туману танкер прыбыў з Наварасійска са спазненнем на суткі на ўмовах своп, што дазваляюць выкарыстоўваць сыравіну з розных крыніц.

Па новай лагістычнай схеме паставак беларусы будуць прадаваць дабытую за акіянам нафту "Санта-Барбара", а потым з дапамогай кампаніі-трэйдэра з Турцыі набываць расійскую нафту "Уралс". На чарзе перакачка на своп-схеме азербайджанскай нафты, далей ,не выключана, сыравіны з Казахстана і з іншых краін з басейна Чорнага, Сяродземнага мораў. Такія магчымасці беларускі лідар абмяркоўваў нядаўна з прэзідэнтам Дзяржаўнай нафтавай кампаніі Азербайджана Р. Абдулаевым.

Расійскі бок на такую перспектыву адрэагаваў заклапочанасцю, але нашы спецыялісты запэўніваюць, што існуючых магутнасцей украінскай трубы дастаткова, каб беларусаў выручаць і забяспечваць транзіт расійскай нафты па гэтым маршруце ў Еўропу. У любым выпадку перад Беларуссю – няпростыя гады наперадзе і выпрабаванні ў жорсткім посткрызісным свеце. Галоўнае, што нас чакае непазбежны пераход на сусветныя цэны на энерганосьбіты, паколькі Расія ніколі ўжо не прадоўжыць такія льготныя пастаўкі нам нафты і газу, як раней.

У наступным годзе Беларусі прыйдзецца купляць яшчэ даражэйшы расійскі газ. Затым можа зноў абвастрыцца газавае супрацьстаянне перад падпісаннем даўгатэрміновых пагадненняў аб пастаўках, пачынаючы з 2012 года. Ва ўрадзе папярэдзілі суседзяў, што будуць спрачацца з імі наконт павышэння тарыфаў на транспарціроўку газу па беларускай тэрыторыі. Характэрны штрых: на новы 2011 год у нас зацвердзілі асноўныя прагнозныя параметры развіцця ніжэй за зададзені сёлетняга года.

Пры гэтым стала меней валавых паказчыкаў, перайшлі да больш рэальных паказчыкаў. Аднак сярод іх найбольш важныя – прыцягнуць у будучым годзе 6,5 млрд. долараў прамых замежных інвестыцый. Не выключана, што нам прыйдзецца прадоўжыць супрацоўніцтва з МВФ, прыслухоўвацца да яго рэкамендацый і прасіць зноў сродкі для падтрымання курсу айчыннага рубля. Перад Беларуссю стаіць цяпер важнейшая задача: перавесці эканоміку краіны на шлях інавацыйнага развіцця, пастарацца больш укараніць сучасныя тэхналогіі 5-га пакалення. Пакуль іх доля 3-5% да ВУП, калі ў сусветных лідараў – 50 %. Значыць, і нам не абысціся без эканамічных рэформ і далейшай палітычнай адлігі, дэмакратызацыі жыцця.

*Заканчэнне. Пачатак у № 47 (555) за 25 лістапада.*

# хутар Скрабатуны

■ **Уладзімір Скрабатун**



## Я памятаю ўсе беларускія азёры – ад Асвеі да Свіцязі.

**У.С.:** Якаў нам паведаміў, што Вы – навуковец, азёразнаўца. Вы даследавалі беларускія азёры. Цяпер я нават і не здзіўляюся, што Вы пакінулі шумны Мінск і прыехалі жыць на хутар, на бераг возера, якое некалі даследавалі. О! Гэта вельмі цікава!

**Аляксей:** Калісьці пры БДУ была лабараторыя азёразнаўства. Я ў гэтай кампаніі і працаваў. Сярод нас і Вольга Філіпаўна Якушка, доктар геаграфічных навук, прафесар, аўтар кніг: "Беларускае Паазер'е", "Геаграфія азёр Беларусі" і гд. Я – адзін з суаўтараў гэтых кніг.

Быў у нас кантракт з тагачасным Міністэрствам меліярацыі. Паводле гэтага кантракту штогод выязджала 3-4 групы на даследаванне азёраў. Тэма называлася "Пашпартызацыя азёраў Беларусі". Кадастр. Даследаваліся ўсе азёры плошчай ад 0,1 га і болей: глыбіня, месца размяшчэння, узровень донныя адкладанні… Абыходзілі берагі азёраў, адзначалі балоты, ручаіны – увесь вадазбор. Усё гэта запісвалася, адзначалася. Між тым усе нашыя даследаванні на той час лічыліся сакрэтнымі. Потым рассакрэцілі, і даследаванні пайшлі ў друк.

Я даследаваў азёры ад Асвеі на поўначы Беларусі і да возера Свіцязь – на беларуска-ўкраінскай мяжы (Брэсцкая вобласць). Усе азёры Беларусі, што былі па плошчы больш за 0,1 га, мы даследавалі і запісвалі дадзеныя. Я памятаю фактычна ўсе азёры. Менавіта я даследаваў Ушацкую групу азёраў: Крывое, Атолава, Туроўля… Натуральна, даследаваў і возера Супонец, на беразе якога мы сёння жывём.

## А глыбіня возера Доўгага – "ліпавая"?

У.С.: Глыбіня возера Доўгага – 53,7 метра. Такая глыбіня адзначаная не толькі ў кнігах, якія прысвечаныя азёрам Беларусі, але і ў школьных падручніках, пра тое апавядаюць экскурсаводы, калі сюды едзе экскурсія. А рыбакі сцвярджаюць, што – няпраўда! Намяралі і 90 метраў…

**Аляксей:** Ну як тады мерылі, калі з намі была і Вольга Філіпаўна!? Капронавай вяроўкай! На марозе яе даўжыня – адна, у спёку – іншая. А як з лодкі ці з ільду знайсці гэтую кропку? Вось мы ішлі па лёдзе, і праз 50 метраў ставілі вешку. Лунку прасвідравалі. Тут падыходзіць дзеўка… А як яна там памерыла? Ці адчула яна, як лёг на дно той лот? Ці знясло яго куды-небудзь у бок? Ці тое самае, калі мерыць глыбіню лескай! Вось у чым справа. А тое, што там нехта намерыў 90 метраў – што ж, і такое можа быць! Гэта ж цяпер – прыборы! Рэхалоты! Усё, што трэба, ёсць! А тады, тры-чатыры дзесяцігоддзі таму, нічога не было…

**У.С.:** Ну, Вы даяце! А мы ж Вам ўсёй Беларуссю верылі! … 53,7 метры?! Жарт, зразумела.

Нашыя глыбоцкія рыбаловы-аматары без рэхалоту сёння і на рыбалку не ідуць. На тое ж Доўгае таксама.

Тут да месца, а мо й не, апавяду тое, што чуў ад жыхароў вёскі Сахнавічы, побач з якімі знаходзіцца трэцяе па глыбіні возера Беларусі – Гінькава. Падобна тое на анекдот, але ж казалі – праўда!

Дык вось, як сцвярджалі мясцовыя жыхары: "Прыехала "брыгада" мерыць глыбіню возера Гінькава. Уладкаваліся па сялянскіх хатах. Замест замеру глыбіні возера яны цэлы тыдзень мерылі глыбіню цэбара з самагонам. А тут час прыйшоў назад у Мінск ехаць. – Дзед,– кажуць яны,– паказвай, дзе на вашым возеры самая вялікая глыбіня! Паплылі на лодцы. Дзед сказаў: "Тут!". Памерылі вяроўкай – 43,3 метра. Запісалі. Ды з'ехалі."

І там, кажуць – 70 метраў рыбакі намерылі! А нехта– дык і дна не дастаў.

**Аляксей :** Ну, якія тады прыборы былі! Нават каб памерыць тэмпературу вады на глыбінях, самі вынаходзілі прыборы. У мяне і пасведчанне недзе ляжыць! А да таго мерылі ртутнымі тэрмометрамі. Цяпер жа ёсць розныя электронныя прыборы. Навігатары. А тады ж мы цягнулі нівелірныя хады.

Ды й наогул за тагачасныя 90 рублёў заробку – гэта не навука! Я зразумеў: не маё! Сям'я ж – 5 чалавек! І як раз тады, у 1989 годзе, выйшла пастанова савецкага ўраду, якая дазваляла набываць дамы у вёсках. І я падумаў: "А чаму б і не?". І напэўна я з мінчанаў быў адным з першых, які з'явіўся на Глыбоччыне. Я купіў гэты хутар яшчэ пры Малатоўніку. За 1200 рублёў на савецкія грошы. Гэта ж былі грошы!!!

## Ці бачылі вы хоць раз зорнае неба?

**У.С.:** І не шкадуеце, што пакінулі Мінск?

**Аляксей:** Я-я-я??? Ды вы што! Я ў Мінск вярнуцца не магу! Прыеду туды … Тры дні і – ўсё! Во! Мяне ледзьве не ванітуе ад таго Мінска. Заснуць не магу! Усё грыміць там. А тут – цішыня паўнюткая, ні шораху. І што той Мінск? Ты там пачуваешся нікому непатрэбным! Адзінокім. А тут я – свой! Як кажуць: "Ты і я – адной крыві!" Прачнешся ў Мінску а палове трэцяй ці ў пяць гадзінаў, і што будзеш рабіць? Вакол – суседзі! Прабачце, не пукні! А тут станок уключаю! Ці пайшоў на рыбалку, хоць на ўвесь дзень. Усё – у кайф!

**У.С.:** Ну й ці была хоць раз рыбацкая ўдача?

**Аляксей:** О-о-о! Адзін раз за раніцу налавіў кілаграм пяць пліткі. Стандарт! Адна ў адну – з далоню! 150 грам.

Тут і мінчане прыязджаюць узімку. Да нас не ідуць начаваць, а ставяць палатку ў лесе. Дні тры рыбачаць.

Наогул, я лічу, што ёсць нейкі жарт гісторыі, што я вярнуўся да сваіх каранёў. Мой прадзед быў "выпісаны" дзесьці з гэтых мясцін. Адна пані мела тут зямлі. Жыў ён потым пад Мінскам у Дзехціроўцы, адкуль ужо мы паходзім. Я адмыслова спраўдзіў у тэлефонным даведніку Глыбоцкага раёна. Там Серафімовічаў – чалавек дзесяць.

У Скрабатунах, акрамя нас – Серафімовічаў – жыве яшчэ Барыс Паўлавіч Уласаў, азёразнаўца. Мой калега. Ён яшчэ працуе. Загадчык ужо згаданай вышэй лабараторыі азёразнаўства, лімнолаг. Займаецца кармавой базай азёраў, раслінамі і жывёламі, і ўсім, што там знаходзіцца, складае пашпарты азёраў. Таму жыве тут незаўсёды, а прыязджае адпачываць.

## Наша прырода – наша багацце!

Фенаменальна! Мінчане пераязджаюць на сталае жыхарства на Глыбоччыну. У адной толькі Бабруйшчыне жыве (стала альбо сезонна) ці не пяць сем'яў. Да мяне, як выдаўца газеты, дзе шмат абвестак, не так ўжо і рэдка звяртаюцца мінчане па дапамогу. – Патрэбны дом у вёсцы на беразе возера, а побач – лес! – чую ў тэлефоннай трубцы. Тэлефануюць рэжысёры, пісьменнікі, навукоўцы...

Наша прырода – наша багацце!

Шмат хто з моладзі не можа сябе знайсці альбо праявіць у вёсцы. З'язджаюць назаўсёды ў горад, а то й за межы Беларусі. Серафімовічы, наадварот, прыехалі з Мінска не ў вёску, а на хутар, каб тут рэалізаваць свае задумы. І – шчаслівыя!

Якаў пахваліўся, што ў гэтым годзе ў яго выраслі і саспелі кавуны пад тры кілаграмы. А грыбоў сабраць можна было – вагон! Зрэшты, у Серафімовічаў – разлеглая натуральная гаспадарка: вялікія цяпліцы, куры, індыкі. Вырошчваюць расаду і вязуць трактарным прычэпам то на рынак у Глыбокае, то ва Ушачы, але шмат яе прадаецца і на месцы (Івесь, Хралы, Псуя, Завулак). У цяпліцах, акрамя таматаў і гуркоў, вырошчваецца вінаград, нават ківі расце (укрываецца на зіму).

Грошы можна зарабіць і на хутары! Праўда, іх не дастаткова, каб распачаць сур'ёзны навабуд. Трэба браць крэдыты. Якаў заклаў падмурак пад новы і прыгожы дом!

# Навошта разбурылі «чырвоную школу»?

■ **Уладзімір Скрабатун**

У 1939 годзе, пасля выгнання ад нас палякаў, – распачалі будаваць светлую будучыню. Ды ўсё нешта перашкаджала. Ці «ворагі народа», ці Беразвецкая царква, напрыклад. Ну і што з таго, што яна ўвайшла ў "Сусветную гісторыю архітэктуры" нараўне з егіпецкімі пірамідамі, а амерыканскія студэнты-архітэктары бачаць у падручніках яе выяву – найбольш выразны прыклад архітэктуры "віленскага барока"! Шэдэўр еўрапейскай архітэктуры!

Не важна! Яна мяшала будаваць светлую будучыню. Глыбоцкія ўлады вырашылі, а полацкія абласныя тое зацвердзілі. Знеслі ў пачатку 1950-ых гг! Цяпер, хіба што, застаецца локці кусаць. Часы змяніліся і адносіны да даўніны змяніліся. Вунь, якія міжнародныя фэсты праводзяцца на фоне полацкай Сафіі! Народ едзе з усяе Беларусі і з замежжа!

*Заканчэнне на стар. 6*



**Настаўніца «школы паўшэхнай» Яніна Мастовіч, родная сястра пісьменніка Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча (у цэнтры) і яе вучні: Лагун Янэк, Андрэйчык Вацлаў, Рубніковіч Владэк, Зыкоўская Марыя, Зыкоўская Гэля, Шкленнік Стэфа, Швед Стася, Мацкевіч Вэрця, Кандратовіч Гэля, Скурат Зоф'я, Гембіцкая Фа..., Вяневіч ..., Субач Эльжуля, Вільмінская Тома, Беркан Фая, Шамовіч Вэрця. Злева – дырэктар школы пан Капчыньскі, справа – ксёндз Казімір Міраноўскі. Фота 1920-ых гг.**

■ **Аляксандр Івашчонак,**
*бакалаўр гісторыі Ягелонскага Універсітэта*

# Знойдены сын Якуба Ясінскага



**Якуб Ясінскі**

**Якуб Ясінскі (24 ліпеня 1759 — 4 лістапада 1794) — кіраўнік вызвольнага паўстання 1794 году на абшарах Вялікага Княства Літоўскага, інжынер, паэт.**

**Лідар радыкальнага «якабінскага» крыла паўстанцаў, прыхільнік ідэяў французскай рэвалюцыі.**

**Падчас паўстання быў кашталянам Вільні, генеральным камадуючым узброенымі сіламі ВКЛ. Кіраваў арганізацыяй новай арміі, набіраючы шляхту, мяшчанаў і сялянаў у войска. Пісаў вершаваныя пракламацыі да сялянаў на беларускай мове. Адкліканы з Вялікага Княства Літоўскага з-за абвінавачваннняў ў «ліцвінскім» сепаратызме. Загінуў пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы).**

Падчас свайго побыту сёлета ў Глыбокім праводзіў шмат экскурсій у касцёле св. Тройцы, у былым кляштары айцоў Кармелітаў ды й на мясцовых могілках ля капліцы св. Эльяша (прарока Ілы). Найбольш экскурсій было з Польшчы – шчыра кажучы, найлепшыя падарожнікі: слухаюць ўважліва, запісваюць і толькі напрыканцы задаюць пытанні, чаго, дарэчы, не скажаж пра падарожнікаў з Расеі, якія слухаць вельмі не хочуць, маюць шмат пытанняў і ўсе не па тэме, тыпу «чаму ў гэтым касцёле сцены белыя а ў іншых пафарбаваныя?» Што тычыцца падарожнікаў з Беларусі, то яны прынамсі слухаюць. Але найбольш-такі мяне здзівіла, што ўсе яны не пыталіся пра кармелітаў ці пра Мюнхгаўзена, але пра сына Якуба Ясінскага. Я ажно не паверыў, як гэта? Які сын? Адкуль вы што ўзялі? Праўду кажучы, я займаюся гісторыяй кляштара кармелітаў босых ў Глыбокім, працу бакалаўрскую пісаў пра гэты кляштар, ды з айцом Бэнігнусам Ванатам шмат размаўлялі пра яго гісторыю ды й славутых манахаў, якія жылі ды працавалі ў гэтым кляштары, але чуткі не чуў, каб тут Якуб Ясінскі быў, а тым больш нейкі сын ягоны. Таму й вырашыў правесці сваё ўласнае гістарычнае расследаванне.

Перш за ўсё пачаў гэтых падарожнікаў пытацца, маўляў, вы больш за мяне ведаеце, дык адкажыце. Ды й пачуў, што сына звалі Томаш, альбо Фама (дарэчы, гэта тое самае імя, толькі па-польску Tomasz, а па-расейску Фома), ды й быў ён манахам ў Глыбоцкім кляштары, а таксама зрабіў ён алтары ў касцёле св. Тройцы. Я аж дзіву даўся, гэткі славуты, а на дадатак кармеліт глыбоцкі, а я, знаўца Глыбоцкага кляштара, нічога пра яго не ведаю.

Таму адразу як вярнуўся ў Кракаў, пачаў у сваіх нататках шукаць. Перш за ўсё праверыў Якуба Ясінскага, які памёр 4 лістапада 1794 года ў Варшаве. Значыцца, што дзіцё ягонае павінна было нарадзіцца перад 1795. Аднак калі яго сам бацька завёз да кармелітаў, то трапіла яно ў такім выпадку ў Глыбокае ў 1794. Вырашыў я праверыць, ці быў якісьці Ясінскі пры кляштары ў Глыбокім на падставе Акту Візітацыйнага з 1830 года. Сярод манахаў, канешне ж ,нікога такога і не было, бо манахаў глыбоцкіх я памятаю. Здалося мне, што ўся гэтая легенда з сынам была кімсьці прыдумана. Перачытаў я яшчэ раз кніжку Гедэмана, але і там ані слуху ані духу, ані Ясінскага, ані ягонага сына. Але пасля падумаў я крыху і пачаў усё укладваць. Калі ён, сын Ясінскага, рабіў алтары, то ён не мог быць манахам, бо манахі не займаліся такой работай: у іх былі рабочыя. А на дадатак ў тыя часы, каб стаць манахам, то трэба было мець пасаг, а сын Ясінскага быў сіратой, таму, пасагу не меўшы, стаўся рабочым пры кляштары. Вось я і вырашыў шукаць яго сярод рабочых. На жаль, **сярод сталяроў** не знайшоў нікога па прозвішчу Ясінскі, былі там толькі:

1. Wincenty Jarkowszczyk
2. Tomasz Paszkowicz
3. Jan Piskunowicz

Пачаў я шукаць сярод іншых рабочых:

**Słudzy kościelni (касцёльныя слугі):**
1. Onufry Baran - Ануфры Баран
2. Franciszek Urbanowicz - Францішак Урбановіч
3. Michał Wierzbicki - Міхал Вярбіцкі
4. Andrzej Karuza - organista klasztorny - Андрэй Каруза
5. Ignacy Saulicz - kalkamista - Ігнацы Сауліч
6. Justyn Janowski - Юстын Яноўскі

**Kucharze (кухары):**
1. Jakub Chroł - Якуб Хрол
2. Jakub Kolaha - Якуб Каляга
3. Mikołaj Statuta - Мікалай Статута

**Krawcy (краўцы):**
1. Kazimierz Rusakowicz - Казімір Русаковіч
2. Stefan Ławrynowicz - Стэфан Лаўрыновіч
3. Jan Piskunowicz - Ян Піскуновіч

**Szewcy (шаўцы):**
1. Tomasz Rościłko - Томаш Расцілка
2. Faustyn Miroszko - Фаустын Мірошка
3. Maciej Kozioł - Мацей Казёл

**Kowale (кавалі):**
1. Antoni Wojtkiewicz - Антоні Вайткевіч
2. Paweł Kowiel - Павел Ковель
3. Hryszka Dusz - Грышка Душ

**Ogrodniki (агароднікі):**
1. Jan Lednik - Ян Леднік
2. Filip Kurylonek - Філіп Курылёнак

**W fabryce sukiennej przyklasztornej (працаўнікі суконнай фабрыкі кармелітаў):**
1. Andrzej Siwki - Андрэй Сівіцкі
2. Adam Baran - Адам Баран
3. Roman Piskunowicz - Раман Піскуновіч
4. Józef Saulicz - Юзаф Сауліч
5. Jakub Padzierob - Якуб Падзяроб
6. Lawren Dusz - Лаўрэн Душ
7. Bawtruk Kuczka - Баўтрук Кучка
8. Franciszek Skrahi - Францішак Скрагі
9. Dominik Ławrynowicz - Дамінік Лаўрыновіч
10. Mikołaj Ławrynowicz - Мікалай Лаўрыновіч
11. Adam Skawarada - Адам Скаварада
12. Stefan Kalaha - Стэфан Каляга
13. Tomasz Drankowicz - Томаш Дранковіч
14. Miron Jeśman - Міран Есьман
15. Jurka Kalaha - Юрка Каляга

**Murarze (будаўнічыя):**
1. Maciej Łukaszewicz - Мацей Лукашэвіч
2. Józef Lednik - Юзаф Леднік

**Pracownicy apteki klasztornej (працаўнікі аптэкі кармелітаў):**
1. Łukasz Dziemidowicz - Лукаш Дземідовіч
2. Michał Siwicki - Міхал Сівіцкі
3. Michał Paszkowicz - Міхал Пашковіч
4. Jakub Kuczka - Якуб Кучка



**Кляштар айцоў кармелітаў у Глыбокім паводле акварэлі 1878 года. Храм кляштара – сёння праваслаўны сабор Ражства Багародзіцы.**

**Cyrulicy klasztorni (цырульнікі):**
1. Symon Dusz - Сымон Душ
2. Jan Ciechanowicz - Ян Цехановіч
3. Paweł Filmanowicz - Павел Фільмановіч

**Parobki (парабкі):**
1. Roman Ciszko - Раман Цішка
2. Mikita Majsiejonek - Мікіта Майсяёнак
3. Andrzej Dusz - Андрэй Душ
4. Jaśka Romanowski - Яська Раманоўскі
5. Janka Lewin - Янка Левін
6. Roman Rudak - Раман Рудак
7. Maciej Jakuszonek - Мацей Якушонак

**Rybaki klasztorni (рыбакі):**
1. Mikołaj Szmitka - Мікалай Шмітка
2. Staś Lednik - Стась Леднік
3. Maciej Osowski - Мацей Асоўскі
4. Hryszka Drankowicz - Грышка Дранковіч

**Niewodniczy (неваднічы):**
1. Jan Filipowicz - Ян Філіповіч

**Chłopcy do pomocy (памочнікі):**
1. Tomasz Miroszko - Томаш Мірошка
2. Kazimierz Paszkowicz - Казімір Пашковіч

**Furmani (фурманы):**
1. Jakub Karuza - Якуб Каруза
2. Symon Łahuta - Сымон Лагута
3. Tomasz Jasiński - Томаш Ясінскі

Ну вось такі на прыканцы толькі і знайшоў, што сапраўды быў нехта Томаш Ясінскі. Варта, аднак ,падкрэсліць, што, будучы фурманам, Томаш Ясінскі не мог зрабіць алтароў у касцёл. Па-першае, каб зрабіць алтары, то трэба было вучыцца, а як бачна з дакумента, Томаш Ясінскі не быў сталяром. Па-другое, не трэба было рабіць алтары, бо яны ўжо былі. Акрамя таго ў тыя часы вельмі часта было так, што бацька перадаваў сыну сваю працу. Напэўна ,так было і з працай у кармелітаў. Фурману не трэба столькі вучыцца, як сталяру. Магчыма, таму і кармеліты вырашылі зрабіць з Тамаша Ясінскага фурмана: праца нескладаная, вучыць не трэба. Дарэчы, падчас састаўлення гэтага дакумента Тамашу Ясінскаму павінна было быць каля 36 гадоў.

Здавалася, што адказ знойдзены: сапраўды быў хтосьці Томаш Ясінскі, і быў ён ў Глыбокім пры кляштары кармелітаў, але не быў манахам і не рабіў алтароў. Быў звычайным фурманам, ездзіў на фурманцы ды й вазіў прыёраў ды пракуратараў кляштарных. Ўсё проста. Але супакою не даваў факт, як гэта сталася, што сын вядомага шляхціца стаўся звычайным фурманам, на тыя часы гэта павінен быў быць скандал! Сын арыстакрата выконвае халопскую працу, а тыя, што меліся ім апякавацца, зрабілі яго сваім парабкам! Так не магло здарыцца! А тым больш не маглі так зрабіць кармеліты! Гэта было супраць іх гонару. Таму я пачаў задумвацца, дзе тут памылка....

Вырашыў я праверыць ўсіх манахаў кармелітаў, бо, дзякуй Богу, захаваліся Księgi Zmarłych – Кнігі Памерлых, дзе ёсць ўсе імёны ды й прозвішчы памерлых манахаў. Тутка й быў адказ на маё пытанне.

Księga Zmarłych Karmelitów Bosych w Polsce, na Litwie i Rusi:

ojciec Eugeniusz od Najświętszego Sakramentu Jasiński urodzony w 1794 roku. Wawrzyniec Jasiński, Litwin stanu szlacheckiego. Od 1808 do 1812 roku z rozporządzenia ojców karmelitów uczęszczał do szkół w Berezweczu przy klasztorze ojców Bazylianów. W 1812 roku po skończeniu owej szkoły wstąpił do zakonu karmelitów bosych w Głębokiem. Profesję zakonną złożył 6 lipca 1813 roku w Głębokiem. W 1816 roku uczył się filozofii w Grodnie. W 1818 roku uczył się teologii w Wilnie. Otrzymał tytuł magistra teologii na Uniwersytecie Wileńskim. Święcenia kapłanie otrzymał w 1820 roku, po czym wykładał filozofię w Grodnie. Profesorem w Grodnie był do 1825 roku, potem wykładał teologię w Wilnie. Był kaznodzieją i prefektem kaplicy Ostrobramskiej w Wilnie. Po kasacie w 1844 roku klasztoru karmelitów bosych w Wilnie przy Ostrej Bramie, został w Wilnie przy klasztorze sióstr karmelitanek bosych. Po kasacie klasztoru sióstr karmelitanek bosych w Wilnie w 1865 roku, nadal pozostał w Wilnie. Zmarł około roku 1871 w Wilnie. Był to ostatni karmelita bosy z dawnej prowincji litewskiej.

Гэты біёграф з кнігі Памерлых ўсё і растлумачыў. Сына Якуба Ясінскага звалі Ваўжынец (альбо Лаўрэнцій, гэта тое самае імя). Кармеліты босыя ў Глыбокім вельмі добра яго выхавалі. Спачатку ў сваёй школе ў Беразвечы пад вокам айцоў базыльянаў. Ваўжынец вучыўся ў Беразвеччы ад 1808 да 1812, а пасля ўступіў ў кармеліты, бо ад малых гадоў вырас ў іх кляштары, таму й адчуваў сябе там, як дома. Будучы манахам, вывучыўся на магістра тэалогіі. Быў прафесарам філасофіі ў Гродне, а пасля прафесарам тэалогіі ў Вільні. Быў апошнім кармелітам са старой літоўстай правінцыі імя св. Казіміра кармелітаў босых.

Вось такая гісторыя і вынік майго гістарычнага расследавання.

# Пачатак ацяпляльнага сезону

■ А.Ю. Рацьковіч,
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МрА.*

**Пайшоў ужо другі месяц ацяпляльнага сезону, да гэтага часу тэмпература паветра амаль увесь час трымалася дадатнай. Сама прырода прадастаўляла час для ліквідацыі недаробак, і яго трэба было выкарыстаць.**

Правесці наладку сістэм рэгулявання адпускання цеплавой энергіі на ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне, ліквідаваць усе недахопы пры падрыхтоўцы да ацяпляльнага сезону. Праводзіць рэгулярна агляд стану цеплавой ізаляцыі вонкавых цеплавых сетак надземнай пракладкі, пры неабходнасці праводзіць бягучыя рамонты.

Дадатныя вонкавыя тэмпературы дазвалялі зэканоміць паліўна-энергетычныя рэсурсы, якія з кожным годам становяцца ўсё больш і больш дэфіцытнымі ў нашай краіне. Для гэтага энергазабяспечваючым арганізацыям і спажыўцам цеплавой энергіі неабходна праводзіць наступныя мерапрыемствы па зберажэнні ТЭР:

- пры тэмпературы вонкавага паветра - 8 С° і вышэй ацяпленне аб'ектаў праводзіць у рэжыме «працепплівання»;
- пры тэмпературы вонкавага паветра - 10 С° і вышэй выкарыстоўваць для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння мясцовыя віды паліва;
- тэмпература ў адміністрацыйных і грамадскіх будынках у выхадныя, святочныя дні і начны час не павінны быць вышэйшай за 12 С°;
- у перыяд дадатных тэмператур вонкавага паветра ацяпленне лесвічных пляцовак жылых дамоў, грамадскіх, адміністрацыйных будынкаў – адключыць;
- забяспечыць жорсткі кантроль за работай вонкавага і офіснага асвятлення, не дапускаючы яго ўключэння ў светлы час сутак;
- не дапускаць пераацяплення будынкаў.

У канцы хацелася б адзначыць, што ў цяперашні час жыццёва неабходна вучыцца берагчы і эканоміць энергію, бо неэфектыўнае выкарыстанне энергарэсурсаў адлюстроўваецца не толькі і не столькі на сабекошце прадукцыі, але і на эканамічнай бяспецы нашай з вамі краіны.



# Навошта разбурылі «чырвоную школу»?

Заканчэнне.
*Пачатак на стар. 4.*

Памятаецца, у канцы 1960-х-пач.1970-ых гг рэальна стаяла пагроза знішчэння царквы і касцёла. У класе аб гэтым толькі й былі размовы. Бацька нашага аднакласніка Аляксандра Шыпулі нейкім начальнікам у райвыканкаме працаваў. Ведалі мы! І знеслі б, як царкву ў Сароках…

Не паспелі. Ксёндз Кшыштаф сказаў мне некалі, што "гэта провід Божы". Можа быць! Але польскія спецыялісты менавіта ў той час будавалі каля Полацка нафтаправод "Дружба", а ў кантракце было запісана – "раз на тыдзень вазіць у касцёл". Касцёл жа дзеючы быў толькі ў Глыбокім. З Масквы далі каманду: "Не разбураць! Прывесці ў парадак!"

Царкву ж наогул неўзабаве абвесцілі "выдатным помнікам архітэктуры". Во! А глыбоцкія ўлады хацелі яе разбурыць! На шчасце – "доўга запрагалі", не паспелі.

Быў некалі ў Глыбокім панскі двор. І вуліца, якая туды вяла, звалася Дворнай (цяпер Кірава). Добрыя паны падарылі гораду стайню, абы ў нашым горадзе была школа. А мы сёння – "аддзячылі"!

Каму перашкаджаў будынак чырвонай школы? Каму? Дыхтоўны будынак! Прастаяў ён паўтара стагоддзі, прастаяў бы яшчэ столькі і больш! Дзясятак мемарыльных шыльдаў можна было прымацаваць да яе сцяны! Будучыя вядомыя навукоўцы, пісьменнікі, адміралы флоту яе скончылі…

Мне скажуць: навошта ўзнімаць гвалт? Гэта ж не помнік архітэктуры! Правільна! Дык чаго ўлады не парупіліся? Чаму не стварылі камісію па ахове помнікаў?

Не было каманды! І самі ведаеце ад каго. Так!

Ну, дапусцім, не помнік архітэктуры! А што, нам не патрэбна карцінная галерэя, не патрэбны Літаратурны музей, музей авіяканструктара П.В. Сухога? Нарэшце – турыстычнае агенцтва? Турызм збіраецеся развіваць? Прэзідэнт жа аб гэтым штораз нагадвае, падпісвае пастановы… Не чыталі?

Ды аддалі б гэты будынак, напрыклад, міліцыянтам – няхай бы ДАІ месцілася! Пад офісы ў арэнду аддалі б. Раённая газета месціцца ў цеснаце, ды й друкарня!

Не! Сам – не гам, і другому не дам!

Не разумею, як вышэй згаданае стасуецца з памкненнямі чыноўнікаў правесці ў 2012 годзе свята, Дзень беларускага пісьменства! Разбурэцца шматвекавая гісторыя Глыбокага, і менавіта тая, якая мае наўпроставае дачыненне да таго ж беларускага пісьменства. Няма тут ніякай шчырасці! Я ўжо не кажу пра тое, што ў горадзе знішчаны апошнія бастыёны беларусчыны – няма ўжо беларускамоўных школ і садкоў (хіба што акрамя тых, хто яшчэ давучваецца). Глыбоцкі раён –адзіны раён краіны, дзе прыдарожныя шыльды напісаны на мове чужой краіны. Ганьба! Турысты абураюцца справядліва.

Глыбокаму патрэбны грошы на добраўпарадкаванне! Згодзен. Падтрымліваю. Няхай дзяржава іх укладзе ў наш горад, а не толькі ў Бягомль, Паставы… А свята тут якім бокам!




«Чырвоная школа» на старадаўняй паштоўцы.

# Інфармацыя да разважання

■ А.П.Салодкі,
*інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

Паважаныя жыхары Глыбокага і раёна, наблізілася доўгачаканая пара года – зіма. У гэты перыяд можна весела правесці час, гуляючы ў снежкі, катаючыся па лёдзе ці проста атрымліваць асалоду ад шпацыраў. Аднак добра змёрзшы пасля ўсіх зімовых задавальненняў, нам захочацца звычайнага цяпла. І прыйшоўшы дахаты, хтосьці пачне цепліць печы, хтосьці ўключыць электрычны чайнік, каб прыгатаваць сабе цёплы напой, альбо уключыць абагравальнік. Пры ўсім пры гэтым варта памятаць, што ўсе гэтыя аб'екты з'яўляюцца крыніцай павышанай пажарнай небяспекі. Таму вельмі вялікая просьба да ўсіх грамадзян выконваць элементарныя правілы пажарнай бяспекі ў гэтыя халодныя дні:

- не пакідайце без нагляду печ, якая цепліцца, і не сыходзьце з хаты на працягу 2-х гадзін пасля закрыцця засланкі печы;
- прыбярыце ўсе гаручыя матэрыялы, якія ляжаць паблізу печы і коміна, а перад топачнай адтулінай на падлозе абавязкова пасцяліце ліставы негаручы матэрыял;
- адрамантуйце няспраўныя печы і коміны (ліквідуйце расколіны, абтынкуйце і пабяліце коміны);
- не карыстайцеся няспраўнымі электрапрыборамі (пашкоджаная ізаляцыя правадоў, зламаныя разеткі і выключальнікі);
- не пакідайце без нагляду электранагравальныя прыборы, не сушыце на іх рэчы;
- не выкарыстоўвайце некаліброваныя плаўкія ўстаўкі ў лічыльніках электраэнергіі, так званыя «жучкі».

І памятаеце, што большасць пажараў адбываецца з-за нашай бяспекі і неасцярожнасці.

**МНС ІНФАРМУЕ** НА 28.11.2010.

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1307;
Гібель людзей –194, з іх дзяцей няма;
Урон –2 731 300 000 руб.,
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў –58;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон –101 300 000 руб.

## Алесь Бяляцкі:
# "Вельмі важна, каб прэзідэнтам стаў сумленны чалавек"

**Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі большасць экспертаў прагназавалі, што яны пройдуць па традыцыйнай схеме. Не выключалі гэтага і беларускія праваабаронцы. Апошнія пятнаццаць год міжнародная супольнасць не прызнавала вынікі выбараў у Беларусі, бо мелі месца фальсіфікацыі.**

Сёлета Захад прояўляе вялікую ўвагу да прэзідэнцкіх выбараў, што мусяць адбыцца 19 снежня, і звязана гэта найперш з перспектывамі геапалітычнага супрацоўніцтва. Вострыя канфлікт з Расеяй прывёў да таго, што беларускаму кіраўніцтву цяпер, як ніколі раней, патрэбна міжнародная легітымнасць, прызнанне вынікаў выбараў з боку сусветнай супольнасці і, перш за ўсё, Захаду. Таму сцэнар цяперашняй выбарчай кампаніі істотна змяніўся: ЦВК зарэгістравала ўсе ініцыятыўныя групы, якія задавальнялі мінімальным патрабаванням заканадаўства, пікеты па зборы подпісаў свабодна стаялі ў цэнтры сталіцы пад бел-чырвона-белымі сцягамі і сцягамі ЕС, і нават сам А. Лукашэнка праз сродкі масавай інфармацыі заклікаў грамадзянаў Беларусі падпісвацца за вылучэнне альтэрнатыўных кандыдатаў.

*Заканчэнне на стар. 11*

# П'яны машыніст дэпо пагражаў падарваць дызель-цягнік Маладзечна-Круляўшчызна

**Дызель-цягнік Маладзечна-Круляўшчызна затрымаўся 21 лістапада на 3 гадзіны 15 хвілін.**

Па ўнутранай сувязі да машыніста звярнуўся адзін з пасажыраў. Ён назваў сябе тэрарыстам і паведаміў, што збіраецца падарваць адзін з вагонаў. На станцы Вілейка былі эвакуяваныя 80 пасажыраў. Выбуховая прылада выяўлена не была, але міліцыі ўдалося затрымаць «тэрарыста», якім быў нецвярозы машыніст маторавагоннага дэпо — 41-гадовы жыхар Вілейкі.

Мужчына змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання, на яго заведзена крымінальная справа па ч.1 арт.340 «Загадзя ілжывае паведамленне аб небяспецы», які прадугледжвае да пяці гадоў пазбаўлення волі.

*БелТА*

